# ПАГОНЯ

Чацвер
11 студзеня 2001 г.
№ 2 (498)
Кошт 75 рублёў

## Зноў хочуць змяніць герб Гродна

**Цалкам рэальна, што на працягу 2001 года будзе зменены старажытны герб Гродна. Гэты пункт ёсць у плане святочных мерапрыемстваў, які разглядаўся 9 студзеня на першым пасяджэнні аргкамітэта Гарадзенскага аблвыканкама, прысвечанага 200-годдзю стварэння Гарадзенскай губерні.**

Вёў пасяджэнне гарадзенскі губернатар Аляксандр Дубко. Акрамя змены герба, плануецца выдаць фотаальбом Гарадзенскай вобласці, кнігу працаў гарадзенскіх гісторыкаў за перыяд 1801-1901 гадоў «Гродзенская старына», адкрыць у гарадскім музеі выставу ўсіх гарадзенскіх губернатараў.

Гарадзенская губерня была створана ў 1801 годзе расейскім імператарам Аляксандрам I.

Канчаткова зацвердзіць план святочных мерапрыемстваў Гарадзенскі аблвыканкам плануе праз два тыдні.

**Павал Мажэйка**

**(Працяг тэмы, на стар. 4)**

## Самыя ўпартыя – у Ваўкавыску

**Да сённяшняга дня доўжыцца забастоўка прадпрымальнікаў Ваўкавыска. Такія дадзеныя мы атрымалі ўчора ў Беларускім прафсаюзе прадпрымальнікаў.**

Рэчавыя рынкі вобласці баставалі толькі першыя пяць дзён. А вось прадпрымальнікі Ваўкавыска працягвалі акцыю пратэсту да 10 студзеня. На момант падрыхтоўкі нумару да друку адбываўся сход стачкама, на якім прадпрымальнікі павінны былі вырашыць - працягваць забастоўку далей ці не.

Як паведаміў старшыня Беларускага саюза прадпрымальнікаў Валерый Леванеўскі, аднадзённыя страйкі будуць праводзіцца на рынках вобласці штомесяц да канчатковага вырашэння канфлікту паміж бізнесоўцамі і дзяржструктурамі.

**Алена Сіневіч**

## Белы - пра Белую Русь

**Сёння, 11 студзеня, а 19-й гадзіне ў Гарадзенскім доме культуры, што па вуліцы Дзяржынскага,1, адбудзецца прэзентацыя кнігі даследчыка Алеся Белага «Хроніка Белай Русі».**

«Хроніка Белай Русі» - гэта першая на Беларусі кніга, прысвечаная рэканструкцыі паходжання назвы Белая Русь, яе распаўсюджванню і замацаванню за сучаснай геаграфічнай прасторай. Дадзеная ў кнізе рэканструкцыя выкананая на падставе грунтоўнага аналізу пісьмовых і картаграфічных заходнееўрапейскіх крыніцаў перыяду сярэднявечча.

На прэзентацыю запрашаюцца ўсе ахвотныя.

## Набажэнства адслужыць Уладыка

**14 студзеня на праваслаўнае свята Абразання Гасподняга Гродна наведае Мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт. Ён адслужыць набажэнства ў гарадзенскім Манастыры Нараджэння Божае Маці.**

Як паведамілі нам ва ўпраўленні Гарадзенскай епархіі, «акрамя набажэнства ў праграме Філарэта не запланавана аніякіх афіцыйных сустрэчаў».

**Павал Мажэйка**




**11, 12 студзеня** - воблачна, з праясненнямі, месцамі - ападкі, вецер паўночна-заходні, 5-10 м/с. Тэмпература паветра **11, 12 студзеня** - уначы - 3...-8, удзень -1...-6.



## Равесніцу 2001 года выпісалі з раддома

**У панядзелак першая нованароджаная ў наваўгоднюю ноч Настачка Смолка здзейсніла першае ў сваім жыцці падарожжа з Гарадзенскага радзільнага дома да сябе ў кватэру.**

**Дамоў Насцю суправаджалі шчаслівыя мама і тата. Паводле словаў 18-гадовай матулі Аксаны Смолкі, гарвыканкам вырашыў прэзентаваць маладой сям'і за нараджэнне першай гарадзенкі тысячагоддзя тэлевізар.**

**Алена Сіневіч**

## Хочаш жаніцца - пакажы ваенны білет

**З 8 па 31 студзеня праходзіць адпраўка ў войска юнакоў Гарадзеншчыны. Паводле дадзеных Абласнога ваеннага камісарыята, медычнае абследаванне прайшло каля 3 000 чалавек. Прызнана няздатнымі да вайсковай службы 27 працэнтаў (каля 800 чалавек), часова няздатнымі з'яўляюцца 11 працэнтаў (каля 300 чалавек).**

З агульнай колькасці юнакоў, што прызнаныя няздатнымі да вайсковай службы, і тых, хто атрымаў адтэрміноўкі па стану здароўя, больш за ўсё па хірургічных захворваннях (28 працэнтаў) - плоскаступнёвасць, скаліёз, апушчэнне нырак; па тэрапеўтычных (27 працэнтаў) - хвароба мышцы сэрца, язвавая хвароба страўніка і дванаццаціперснай кішкі.

Гарадзенскія юнакі будуць размеркаваныя па вайсковых часцях Гарадзенскай і Менскай вобласці.

Мікалай Леанідавіч Жукоўскі, начальнік 2-га аддзялення Абласнога ваеннага камісарыята:

- У войску павінны пабываць усе, яно робіць з юнакоў мужчынаў. Я, напрыклад, сваіх дачок не аддаў замуж, пакуль зяці ў войску не адслужылі.

**Зрэшты, думка гэтая досыць спрэчная. Што і паказала нашае традыцыйнае апытанне, падчас якога мы нас прабавалі высветліць у гарадзенцаў, як яны ставяцца да службы ў войску.**

**Аляксандр Аляксандравіч, кіроўца маршрутнага аўтобуса №1:**

- Вайсковыя гады - самыя лепшыя. Я бы яшчэ раз у войска пайшоў. Я служыў на Поўначы Расеі, у Архангельску. Не тое, што сёння служаць, - кожны дзень дахаты бегаюць, да мамкі. Трэба служыць надалей ад дома, тады і глупства з галавы хутчэй выйдзе.

**Аляксандр Міхайлавіч Ракіцкі, намеснік начальніка 2-га аддзялення Абласнога ваеннага камісарыята:**

- У мяне і сын у войску служыць, у спецназе. Сам так захацеў. А наконт «дзедаўшчыны» і «неўстаўшчыны»..., дзе не бывае праблемаў? Вазьміце любую грамадскую арганізацыю, нават дзіцячы садок, - і там ёсць свае канфлікты. А ў войску гэта ўсё абвастраецца.

**Мікалай Канстанцінавіч, апаратчык «Азота»:**

- У мяне сын ужо быў у войску. Яму не спадабалася. Я лічу, што патрэбна кантрактная сістэма, а тое, што зараз адбываецца ў войску, - гэта хаос.

**Аляксандр, эканаміст:**

- У наш час нерэальна стварыць нармальнае войска. Паводле словаў расейскага тэлевядучага Уладзіміра Познера, нам да ўзроўню Партугаліі яшчэ 700 гадоў патрэбна. А значыць, нармальнае войска будзе не раней. Армія выбівае мазгі.

**Юля Коцкая**

# Новы год - як добрае віно: чым старэй, тым лепш

**Тыя, у каго не ўдалося святкаванне Milleniuma-2001, могуць скарыстаць другі шанец пад Стары Новы год у ноч з 13-га на 14-е студзеня.**

Праўда, святкуюць Стары Новы год толькі самыя ўпартыя, таму што пасля некалькіх тыдняў святаў песенная метафара «вечна малады і вечна п'яны» пасуе да ўсіх і кожнага. А гэта не любы арганізм вытрымае. Да таго ж, гэты новы год такі стары, што ніхто дакладна і не памятае, як яго адзначаць і сустракаць.

### Дык колькі ж у нас Новых гадоў?

Калі навагодняя елка ў вас яшчэ не зусім абсыпалася, - смела накрывайце стол 13 студзеня і сустракайце Новы год па старому стылю. Так і робяць, дарэчы, праваслаўныя вернікі, што пасцілі да Калядаў. Яны традыцыйна адзначаюць свята па юліянскім календары. Калі хто не ведае - юліянскі каляндар увёў не хто іншы, як старажытнарымскі палкаводзец і імператар Гай Юлій Цэзар. Тады вайсковыя займаліся астранамічнымі вылічэннямі. Цэзар вылічыў працягласць года ў 365,25 дзён і ўстанавіў новы год пачынаць з 1 студзеня. Пазней гэтая традыцыя распаўсюдзілася на ўсю Еўропу. І толькі ў XVI стагоддзі Папа Рымскі Грыгорый XIII рэфармаваў каляндар Юлія, дабавіўшы 10 дзён. Так з'явіўся новы, грыгарыянскі стыль.

У Беларусі ж дата святкавання Новага года «скакала» па ўсяму календару. На Усходзе у XIII-XV стагоддзяў год пачынаўся з вясны, у XV-XVII стагоддзях - 1 верасня. І толькі Пётр I у 1700 годзе пастанавіў Новы год перанесці на 1 студзеня, як гэта на тую пару было ў Еўропе.

### Ноч цудаў і магіі

Стары новы год з-за сваёй старажытнасці і таямнічасці з'яўляецца найбольш казачным, нейкім батлеечным святам. У народзе 13 студзеня пачынаецца Шчодры тыдзень. Раней вёска ў гэты дзень ператваралася ў вялікую сцэну тэатра варажбы, магіі і цудадзейства. Моладзь шчадравала, вадзілі «казу», варажылі. Здавалася б, чаму менавіта каза, нейкая зусім



не шляхетная жывёліна, шануецца ў беларусаў? Яўхім Карскі ў сваіх даследаваннях пісаў, што каза - сімвал плоднасці ў розных еўрапейскіх народаў яшчэ з дахрысціянскіх часінаў. Лічыцца, што чэрці баяцца казы, а яе поўсць аберагае ад варожага ўплыву. Цяпер у горадзе, вядома, ніхто не кінецца з песнямі і торбамі для пачастункаў да суседзяў спяваць «Добры вечар!». Аднак генетычная вера ў магію першага дня ўсё ж застаецца. Лічыцца, што як правядзеш першы дзень новага года - такім і будзе жыццё ўвесь год. І ў нас раніцою 14 студзеня малыя спяшаюцца ўстаць раней за ўсіх, каб паабліваць халоднай вадою - гэта прыносіць шанцаванне і здароўе. Ніхто не працуе, не шые - не мые, каб не наклікаць на дом якой бяды. Цвёрда ўпэўненыя, што калі ў першы дзень новага года ў кватэру ўвойдзе першай жанчына - чакай хваробы. І найлепш на Шчодрык накрыць багаты стол - каб увесь год не ведаць нястачы.

Шчодры тыдзень - самы прыдатны час для варажбы. У гэты час лёс лягчэй адкрывае таямніцы будучыні. У горадзе, канешне, не палічыш штыкеціны і не пакорміш пеўня ў варажбе на свайго нарачонага. Але ў кожным студэнцкім пакойчыку дзяўчаты тайна камечаць і паляць паперу, капаюць воскам са свечкі ў ваду, варожаць на пярсцёнках хто ж на тых жа нарачоных.

### Дзед Мароз - гэта творчы псеўданім

Галоўны герой Новага года - канешне ж, Дзед Мароз. Пра яго ўсе гавораць, але ніхто яго не бачыў. Дзед Мароз - не хто іншы, як Святы Мікола. На зімовага Міколу, які па народным календары прыпадае на сярэдзіну снежня, праводзіцца мяжа канчатковага замірання зямлі на зіму. Тады і пачынае Мікола хадзіць па зямлі і стукаць сваім посахам, правяраць: ці добра ўмерзла. У праваслаўнай царкве Святы Мікола-цудатворац шануецца як ахоўнік роду і сям'і. Таму, мабыць, і лічыцца Новы год за самае сямейнае свята.

І яшчэ. Калі нехта перад боем курантаў не паспеў загадаць жаданне - загадайце яго на Стары Новы год. Яно абавязкова здзейсніцца.

**Алена Сіневіч**

# Беларусы павінны падтрымліваць адзін аднаго

**Мінула XX стагодзьдзе, скончылася 2-е тысячагодзьдзе і пачалося трэцяе. І мінула яно, і пачалося неяк незаўважна, без належнай увагі людзей, без падсумоўкі й разважаньня, без пакаяньняў і без надзеяў. Як быццам усе занятыя сваімі клопатамі, больш важнымі, чым роздум над вечнасьцю і сэнсам гісторыі.**

У навагодні пераход стагодзьдзяў, гледзячы эўрапэйскі тэлевізійны эфір, назіраючы калейдаскоп больш паўсотні нацыянальных праграмаў, нельга пазбавіцца ад уражаньня, што бачыш адну вялікую забаўляльную праграму шумнай духоўнай пустэчы, робленай весялосьці і агрэсіўнай бессаромнасьці. Моляцца ў Ватыкане, а вакол - мітусіцца Вальпургіева ноч Эўропы.

Гэта ў эфіры. І гэта адбітак часу, адлюстраваньне ўзроўню тых людзей, тых пластоў, што ўсплылі на паверхню культуры.

Чаму гэтак адбываецца - варта задумацца разам. Чалавек жывы ня можа ня думаць пра сэнс існаваньня. Але цяпер, на пераломе стагодзьдзяў, трэба азірнуцца ў глыбіню, каб убачыць, што было.

XX стагодзьдзе было стагодзьдзем тэхнічнага разьвіцьця. Кардынальна зьмянілася хуткасьць і ўзровень камунікацыяў між людзьмі й адпаведна - уяўленьне аб прасторы. Чалавек, сьведама ці нясьведама, стаў адчуваць сябе істотай не ў бясконцым нязьведаным сьвеце, як раней, а жыхаром на круглай зямлі ў замкнутай прасторы. Разьвіцьцё хуткасьці камунікацыяў пашырыла гарызонты, але абмежавала сьвет. Хуткасьць не дала эканоміі ў часе, але паскорыла рытм. Людзі сталі больш ведаць пра сьвет, але ці сталі яны лепшымі?

У сфэры грамадзкіх дачыненьняў XX стагодзьдзе запомнілася ў гісторыі як час крывавых сусьветных войнаў, масавага зьнішчэньня людзей, таталітарных ідэалёгіяў і асэнсаваньнай, знарочыстай, фантастычнай хлусьні.

Для нас, беларусаў, гэтыя сто гадоў былі драматычным выпрабаваньнем, поўным сьмерцяў і пакутаў. Тым ня менш, мінулае стагодзьдзе сталася для нас больш выніковым, чым XIX, калі ўсе нашыя паўстаньні й войны з Расеяй не далі выніку.

У XX стагодзьдзі была сьцьверджана Беларуская Нацыянальная Ідэя, адроджана Беларуская Дзяржава і абвешчаная яе Незалежнасьць.

Сэнс гістарычнага існаваньня кожнага народу - у стварэньні нацыянальнай дзяржавы й разьвіцьці нацыянальнай культуры. Вось чаму для беларусаў найважнейшымі былі падзеі пачатку і канца XX стагодзьдзя. А менавіта: 1918 год, калі была створана і абвешчаная незалежнай Беларуская Народная Рэспубліка (БНР), і 1991 год, калі была зьліквідаваная маскоўская ўлада КПСС і адноўленая незалежнасьць Беларусі.

Гэтыя падзеі ёсьць для нас найважнейшым вынікам XX стагодзьдзя, якога ўдалося дасягнуць велізарнымі высілкамі, ахвярнасьцю, працай і ахвярамі прадстаўнікоў Беларускага Нацыянальнага Адраджэньня.

Азіраючыся ўсьлед стагодзьдзю, падумаем: чаго нам, беларусам, не хапіла, каб давесьці ўсё да канца? Шмат чаго не ставала, але найперш - не хапіла нам нацыянальнай салідарнасьці.

Беларусы, асабліва перад аблічам чужых нашаму народу сілаў, павінны падтрымліваць адзін аднаго. Беларус беларусу мусіць спрыяць і шанаваць усё беларускае. Гэта абавязковая ўмова беларускай свабоды. Інакш нават геніяльныя справы вялікіх беларусаў будуць змарнаваныя, стануць не чыньнікам перамогі, а толькі чарговай ахвярай на алтар нацыянальнага вызваленьня.

Вядома, што нельга здабыць свабоду без ахвяраў. Але свабода не дасягаецца толькі ахвярамі.

Дзень у дзень крочыць ужо па нашай зямлі XXI стагодзьдзе. Мы перайшлі ў яго з усімі нашымі турботамі, трывогамі й хваляваньнямі за наш лёс. Нашым людзям існаваць цяпер так цяжка, гэтак бедна і непрытульна, што беларусы ня могуць не задумвацца: што чакае іх у будучыні. Шмат хто па звычцы спадзяецца, што нешта здарыцца, што нехта дапаможа, што неяк жа ж будзе. Але гэта памылковыя ўяўленьні. Бо ўсё залежыць не ад некага, а толькі ад нас, беларусаў, і толькі мы можам самыя сабе дапамагчы, і толькі так будзе, як мы зробім.

Самае вялікае выпрабаваньне, якое ўжо нясе нам XXI стагодзьдзе, - і ня толькі нам, але і ўсёй Цэнтральнай і Усходняй Эўропе - гэта разбурэньне маралі й маральны рэгрэс. Д'ябальская атака брыдоты й паскудзтва ідзе на Беларусь з двух бакоў: з кагэбоўскай Расеі й зь лібэральнай Эўропы.

Гэта комплексная атака, але калі вылучыць галоўнае, то самай страшнай заганай, што ідзе з Усходу, ёсьць алкагалізм, п'янства, стымуляванае ў нацыянальным маштабе.

На Беларусі п'янства рэзка пашырылася за апошнія 5-6 гадоў. Напрыканцы XX стагодзьдзя на Беларусі, амаль у паўтары разы перавышаны дапушчальны парог спажываньня алкаголю на кожнага жыхара краіны, пасьля чаго пачынаецца незваротны працэс выраджэньня этнасу.

Для параўнаньня: у Беларусі спажываецца больш як 11 літраў алкаголю ў год на аднаго жыхара. У Расеі - 9 літраў, на Ўкраіне - 4,5 літра. Навуковая й міжнародна прынятая норма алкагольнага парогу, пасьля якога пачынаецца дэградацыя этнічнай супольнасьці, складае 8 літраў.

Да сярэдзіны 90-х гадоў XX стагодзьдзя абсалютным чэмпіёнам па алкагольным спойваньні й выраджэньні была Расея. Тое, што здарылася зь Беларусьсю напрыканцы XX стагодзьдзя й набірае моцы цяпер - гэта ёсьць этнічная й народная катастрофа. Патрэбныя вельмі хуткія, радыкальныя й эфэктыўныя захады, разьлічаныя на доўгі час (адно-два пакаленьні), каб гэты працэс затармазіць.

Самай небясьпечнай заганай, што шчэміцца да нас з брусэльскай Эўропы, - гэта ўзаконьваньне чалавечай брыдоты на падставе фальшыва ўспрынятай лібэральнай канцэпцыі правоў чалавека. Ня можа быць свабоды граху. Чалавек ня мае права на разбэшчанасьць, на самазьнішчэньне (хоць і здольны на гэта). Грамадзтва не павінна такое цярпець.

Дзе ж компас, дзе ж той справядлівы шлях, дзе зорка, якая павінна сьвяціць беларусам у XXI стагодзьдзі над дарогай, што вядзе ў Беларускі Храм?

Я мяркую, што Беларусь павінна вярнуцца да Хрысьціянства. Беларусь у XXI стагодзьдзі мусіць адрадзіцца як Хрысьціянская краіна. Беларуская ідэя, што грунтуецца на традыцыі беларускага Хрысьціянства - гэта шлях для нас найбольш унівэрсальны і правільны, бо толькі такая сьветлая й магутная ідэя магла б дапамагчы беларусам вылезьці з глыбокай ямы, у якую ўпіхнулі наш народ ворагі Беларушчыны.

У нашай гісторыі ёсьць шмат дзівоснага і містычнага. Дзівосным было нашае паўстаньне з попелу напрыканцы 80-х гадоў. Дзівосным было вяртаньне незалежнасьці ў 1991 годзе вельмі малымі адраджэнцкімі сіламі ў Вярхоўным Савеце. Дзіўнымі падаюцца цяпер рабскія пакуты народа, структура інтэлектуальных магчымасьцяў якога ў чатыры разы перавышае сярэднеэўрапэйскі ўзровень. Дзіўным здаецца паніжэньне нашчадкаў тых, хто ніколі не прыгнятаў іншыя народы і нават палонным іншаверцам даваў волю, зямлю й шляхецтва. Дзіўным ёсьць зьневажаньне народа, які трымае ў руках незвычайны сымбаль - Сьцяг Ісуса Хрыста. Гэты сьцяг у рэальнасьці зьяўляецца галоўным зьместам варожага перасьледу беларусаў і галоўным сэнсам беларускага змаганьня.

Магчыма, Беларусь і яе народ чакае незвычайная будучыня й сьветлая доля. Магчыма, беларускім празорцам у XXI стагодзьдзі адкрыецца яе сэнс. Сёньня ж ужо відавочна і ўсім зразумела: ніколі беларускія рыцары Сьцяга ня выпусьцяць з рук наш сьвяты Бел-Чырвона-Белы, наш адвечны беларускі сымбаль - Сьцяг Беларускай Нацыі.

**Зянон Пазьняк**
**4 студзеня 2001 году**



"Всероссийское общественно-политическое движение "Наш Дом - Россия" будет делать все возможное для формирования здорового образа жизни нашего народа."




ОТ ЛИДЕРА ДВИЖЕНИЯ
"НАШ ДОМ - РОССИЯ"

НАГРАЖДАЕТСЯ

команда Колхоза «Маяк» Корелического района Гродненской области Республики Беларусь за успешное выступление на Спартакиаде трудящихся Российской Федерации по перетягиванию каната

В.С. Черномырдин

## Чарнамырдзін думае пра Беларусь

**Вось такі дыплом атрымаў калектыў калгаса «Маяк» Карэліцкага раёна за ўдзел у спартакіядзе працоўных Расейскай Федэрацыі. Як бачыце, расейскія палітыканы вырашылі ўцягваць Беларусь у «трудящиеся» Расеі па аднаму калгасу.**

**Аднак, не ўсё так проста. Беларускія калгаснікі, калі трэба, умеюць не толькі сеяць хлеб, але і перацягваць канаты.**



«Мы прывязалі беларускі рубль не так как усе – к долару, а к расійскаму рублю».

## Сын за бацьку

**У 1.50 дзевятага студзеня, у Гродне быў затрыманы міліцыяй Уладзімір Леванеўскі, непаўналетні сын старшыні гарадзенскага прафсаюза прадпрымальнікаў Валерыя Леванеўскага.**

Уладзімір вяртаўся з Менска і быў затрыманы міліцыянтамі блізу ўласнага дома нібыта «па падазрэнні ў злачынстве». Ён быў абшуканы і дастаўлены ў пастарунак «Дзевятоўка», а пасля - у Ленінскі РАУС горада Гродна.

Патэлефанаваць бацькам хлопцу не дазволілі. Толькі а 4-й гадзіне міліцыянты паведамілі бацькам пра затрыманне сына.

**Сяргей Сноп**

## Hrodna апанавана Кусельчуком

**Дзяржаўны цэнтр бяспекі інфармацыі пры Савеце Бяспекі Рэспублікі Беларусь даў дазвол на рэгістрацыю гарадзенскага незалежнага партала www.hrodna.by. Партал створаны гарадзенскім абласным грамадскім аб'яднаннем «Ратуша».**

У «Ратушы» плануюць, што партал пачне дзейнічаць на працягу трох месяцаў і будзе адначляцца штодзень. Там будзе знаходзіцца інфармацыя з Гарадзенскай вобласці: эканоміка, банкі і фінансы, права, культура, спорт.

Партал плануецца на чатырох мовах: беларускай, ангельскай, польскай і рускай. Рэдактарам партала стаў былы галоўны рэдактар польскамоўнай газеты «Глос з-над Немна» Анджэй Кусяльчук.

**Павал Мажэйка**

## Свабоду падарыў Лукашэнка

**Сорак пяць чалавек, асуджаных на Гарадзеншчыне да крымінальнага пакарання, не звязанага з пазбаўленнем волі, будзе вызвалена ад адказнасці ў сувязі з увядзеннем новых Крымінальнага і Працэсуальнага кодэксаў. Яшчэ пяць чалавек, асуджаных «на хімію» ў спецкамендатурах, будуць таксама вызвалены ад пакарання.**

Матэрыялы аб вызваленні асуджаных гарадзенскімі органамі МУС былі накіраваныя ў суд яшчэ ў мінулым годзе. Але напрыканцы снежня па тэлебачанні выступіў Генпракурор Віктар Шэйман і заявіў, што ўвядзенне кодэксаў будзе адкладзенае. Суды вярнулі матэрыялы органам МУС.

Трэцяга студзеня, пасля таго, як Аляксандр Лукашэнка аддаў загад аб увядзенні новых Кодэксаў у дзеянне, адпаведныя органы МУС ізноў адправілі матэрыялы на вызваленне асуджаных да пакарання. Хутка асуджаныя стануць вольнымі людзьмі.

Цікавы выпадак адбыўся ў Навагрудскім раёне. Там напрыканцы года асудзілі за самагонаварэнне адну кабету. А ўжо з надыходам 2001 года яна павінна быць вызвалена, паколькі новы Крымінальны кодэкс не прадугледжвае адказнасці за самагонаварэнне. Падобная рэч адбываецца і са справамі аб парушэнні правілаў валютных аперацыяў, якія ў масавым маштабе былі распачатыя ў мінулым годзе.

**Сяргей Сноп**

## Першая ластаўка аб'яднання

**Аб'яднанне Беларусі і Расеі распачалося, і выніку гэтага мы ў хуткім часе адчуем. Пачынаючы з 2001 года зменена стаўка падатку на прыбытак. Яна павялічылася з 25 да 30 працэнтаў. Звязана гэта з неабходнасцю ўніфікацыі заканадаўства з Расейскай Федэрацыяй, дзе стандартная стаўка складае 30 працэнтаў.**

Райфінаддзелы раённых цэнтраў Гарадзенскай вобласці, якія завяршылі фармаванне раённых бюджэтаў гэта ўжо здзейснілі.

## Статкевіч ізноў марыць

**Мікола Статкевіч, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), не губляе надзеі трапіць у лукашэнкаўскую «палатку».**

У Навагоднім лісце да сяброў па партыі ён заклікаў іх прыняць самы непасрэдны ўдзел у паўторных выбарах у Палату прадстаўнікоў і накіраваць на тыя выбарчыя ўчасткі, дзе будуць праходзіць выбары, партыйных прадстаўнікоў з іншых рэгіёнаў. Як паставіцца шараговыя сябры партыі да такой прапановы старшыні, стане вядома не нечарговым з'ездзе партыі ў сакавіку бягучага года.

**М.Карпейчык**

# Чыноўнікі пакінулі дзяцей без падарункаў

**Выяўляецца, каб сабраць мех падарункаў для дзетак з сацыяльнага прытулку, трэба спытаць дазволу ў мэра горада. А для таго, каб правесці дабрачынны канцэрт на карысць гэтых дзетак, неабходна мець ліцэнзію на арганізацыю канцэртнай дзейнасці, якая каштуе тысячу мінімалак ці 3 600 мільёнаў рублёў. Пра гэта даведаліся карэспандэнткі газеты ПАГОНЯ, якія разам са сваімі сябрамі захацелі зрабіць свята малым дзецям, да якіх Святы Мікалай звычайна не прыходзіць.**

Напрыканцы мінулага года ПАГОНЯ пісала пра нядаўна створаны сацыяльны прытулак, дзе жывуць 37 дзяцей, у якіх бацькі часова пазбаўленыя сваіх правоў. Гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі ходзяць у звычайную школу і вучацца разам з дзецьмі, якія маюць самую модную вопратку, новыя заплечнікі і цёплы абутак. Таму невыпадкова ў нас, нядаўніх школьніцаў, і ўзнікла ідэя спрэзентаваць пад елачку сацыяльна неабароненым дзецям некалькі стосаў каляровых сшыткаў, прыгожых асадак і мяккіх цацак.



А Настачка так марыла пра ляльку Барбі...

Падарункі вырашылі сабраць на дабрачынным канцэрце. Прыняць у ім удзел пагадзіўся культурны бамонд горада - барды, тэатры, гурты. Замест уваходнага квітка кожны запрошаны павінен быў прынесці нейкі падарунак для дзіцяці. Пазней мех з гэтымі падарункамі планавалася занесці ў прытулак і раздаць хлопчыкам і дзяўчынкам.

Месцам для канцэрта абралі Гарадскі дом культуры. Там, адпаведна словам дырэктара ГДК Івана Зачатка, у запланаваны дзень, 27 снежня, сцэна была вольнай.

- Адзінае толькі, дзяўчаты, - папярэдзіў дырэктар, - зайдзіце ў аддзел культуры гарвыканкама і ўзгадніце там гэтае мерапрыемства. Бо вы ж мяне разумееце, не магу я без іх дазволу. А маю папярэднюю згоду вы маеце.

Загадчыца аддзела культуры гарвыканкама Ірына Кліменка дала зразумець, што яна не супраць добрых пачынанняў.

- Толькі я не разумею тэхналогіі перадачы падарункаў, - сказала яна. - Я не магу разабрацца з нямецкай гуманітаркай, а як вы разберацеся з гэтымі падарункамі?

Спадарыня Кліменка накіравала ініцыятараў дабрачыннай акцыі спачатку да фінансістаў, а пасля - і да юрыстаў.

Пачалося блуканне па кабінетах. Фінансісты паціснулі плячыма. У юрыдычным аддзеле трое маладых людзей здолелі толькі неразборліва прачытаць з паперкі фармулёўку Закона «Аб масавых шэсцях і мітынгах». Намеснік старшыні гарвыканкама Сяргей Анішчык увогуле сказаў, што «ў нашым горадзе няма такога сацыяльнага прытулку». Затым сказаў, што трэба напісаць заяву на імя старшыні гарвыканкама з просьбай даць дазвол на правядзенне дабрачыннага мерапрыемства.

- Вам бы яшчэ ў лялькі пагуляць, - дадаў напрыканцы размовы спадар Анішчык. А ляльку, між іншым, марыла атрымаць на Новы год маленькая Насця, маці якой была пазбаўленая бацькоўскіх праваў. Сваю ляльку дзяўчынка так і не атрымала...

Каля тыдня заяву разглядалі ва ўсіх магчымых кабінетах. Спецыяліст аддзела адукацыі Дзмітрый Апалайка нават тэлефанаваў адной з арганізатарак дахаты і распытваў пра тое, кім з'яўляюцца ініцыяткі акцыі, дзе яны вучацца, хто будзе ўдзельнічаць у мерапрыемстве. Пасля, відаць, стомлены чыноўнік раптоўна выпаліў:

- Вы меня грузите, девушка!

Відаць, у аддзеле адукацыі не ведаюць, што грузіць могуць толькі грузчыкі, а супрацоўнікі гарвыканкама павінны ўжываць нармаваную лексіку. Калі ж, нарэшце, адукоўваць у нашай краіне будуць не хамы, а культурныя і выхаваныя асобы?

У правядзенні дабрачыннага канцэрта арганізатарам было адмоўлена. У афіцыйным адказе было паведамлена, што 27 снежня ў Гарадскім доме культуры гарвыканкам праводзіў свае мерапрыемствы. Акрамя таго, «на арганізацыю канцэртнай дзейнасці, у тым ліку дабрачынных канцэртаў, згодна з дзеючым заканадаўствам РБ патрабуецца ліцэнзія».

Адмова была падпісаная намеснікам старшыні гарвыканкама Яўгенам Жабруном 20 снежня 2000 года. Штэмпель на паштовай капэрце датаваўся 29-м чыслом таго ж месяца. Напэўна, у гарвыканкаме адпраўка пошты бывае раз на дзевяць дзён.

Дзеці з сацыяльнага прытулку на Новы год атрымалі толькі салодкія падарункі. Праўда, хлопчыкі і дзяўчынкі мелі яшчэ шчасце пабывыць на елцы ў мэра. Відаць, дарыць радасць дзецям у нашым горадзе дазволена толькі аднаму чалавеку.

**Юлія Дарашкевіч, Юля Коцкая**

Рэспубліка Беларусь
Гродзенскі
гарадскі выканаўчы камітэт
20.12.2000 № 937
На № ____ ад ____
г. Гродна, пл. Леніна, 2

Коцкай Ю.У.
230032, г.Гродна,
вул.Урублеўскага,д.56,кв.141

Юлія Уладзіміраўна!

Гродзенскі гарадскі выканаўчы камітэт уважліва разгледзеў Вашу заяву. Паведамляем, што даць дазвол на правядзенне 27 снежня 2000 года ў гарадскім Доме культуры дабрачыннага канцэрта для дзяцей з сацыяльнага прытулку не можам у сувязі з тым, што у гэты час у названых установах запланаваны свае мерапрыемствы. Акрамя гэтага, на арганізацыю канцэртнай дзейнасці, у тым ліку і дабрачынных канцэртаў, згодна з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь патрабуецца ліцэнзія.

Намеснік старшыні гарвыканкома — Я.М.Жабрун

Апалайка 720402

# Сад - лепшы ў горадзе, а мама - ва ўсёй Беларусі

**Загадчыца гарадзенскага дзіцячага садка N89 Ірына Арол стала пераможцай агульнабеларускага конкурса «Лепшы кіраўнік XXI стагоддзя». Амаль адначасова садок, якім кіруе Ірына Арол, быў прызнаны лепшым у горадзе Гродна.**

Выхаванне дзетак, а іх у садку 210, адбываецца па адмысловай тэхналогіі алгарытмізацыі матэматычнага развіцця дашкольніка. З дзецьмі працуе таксама спецыяліст па тэатральнаму майстэрству.

- Нашыя дзеткі, - кажа загадчыца Ірына Арол, - з задавальненнем і на высокім узроўні граюць у спектаклях з трох дзеяў.

Ужо даўно сфармаваная ў дзіцячым садку N89 і польскамоўная група. Праграма нядаўняга навагодняга ранішніка была цалкам на польскай мове.

Перад Новым годам супрацоўнікі гэтай дзіцячай установы выпусцілі ўласную газету, дзе дзеці самі ацанілі свой садок. Найбольш папулярным быў адказ: «У нас самы прыгожы садок!» Шафаў у дзіцячага садка N89 няма, таму грашовая прэмія за перамогу ў конкурсе была вельмі дарэчы. Грошы пайшлі на набыццё для садка пыласоса.

**Павал Мажэйка**

# «Мастыдрэў» зноў працуе. На склад...

**У аўторак пасля вымушанага перапынку аднавіла сваю працу Адкрытае акцыянернае таварыства «Мастыдрэў». Тры тысячы семсот чалавек не працавалі з 31 снежня па 8 студзеня.**

Прадпрыемства прастойвала з-за бракавання сродкаў на закупку сыравіны. Акрамя таго, аб'яднанне «Мастыдрэў» не мае куды збываць сваю гатовую прадукцыю. Толькі на складах мэблевай фабрыкі шафаў і канапаў - на 1207,4 мільёна рублёў, што ў 1,2 раза больш за сярэднямесячны аб'ём усёй вытворчасці.

Упэўненасці ў тым, што прадпрыемства надалей будзе працаваць стабільна, няма. На думку тэхнічнага дырэктара аб'яднання «Мастыдрэў» Уладзіміра Новікава, фінансавыя праблемы на сённяшні дзень маюць амаль усе прадпрыемствы і не толькі мастоўскія.

**Юлія Дарашкевіч**

# Радыё да кожнага станка

**Уласнае радыё з'явілася на Смаргонскім заводзе аптычнага станкабудавання. Праўда, вяшчае яно пакуль раз на тыдзень, па серадах, і толькі 20 хвілінаў. Рабочыя з задавальненнем настройваюцца на сваё радыё і нават пачалі падаваць заяўкі на віншаванні.**

Радыё пачало прамаўляць пасля амаль васьмігадовага перапынку. Штат яшчэ не зацверджаны, таму зборам, апрацоўкай і падачай матэрыялаў у эфір займаюцца два грамадскія дыктары, прызначаныя загадам дырэктара.

Эфір складаецца цалкам з унутрызаводскай інфармацыі - заводскія навіны, загады, пастановы.

Музычны час займае музыка 70-х гадоў. Прычына такога рэпертуару, як паведамілі мне на заводзе, - «настальгія, бо самае цікавае ў жыцці адбылося ў 70-80-я гады».

У планах радыё - павелічэнне эфіру і аўдыторыі.

**Павал Мажэйка**

# За рыбалку на Малочным давядзецца плаціць

**Бясплатнай рыбалкі на Парэцкім Малочным возеры больш ня будзе. Такое рашэньне прыняло кіраўніцтва санаторыя «Парэчча», якое ўзяло возера ў арэнду на пяць гадоў.**

З гэтага году кожны аматар вудаў за лоўлю рыбы вымушаны будзе плаціць па 500 рублёў у суткі.

А з траўня 2001 году на возеры Малочным увогуле будзе забаронена рыбацкі ўвесь год.

- Мы запусьцілі і будзем разводзіць малька карпа, сазана, таўсталобіка і белага амуру, - патлумачыў спецыяліст па ахове і ўзнаўленні рыбных угоддзяў на Малочным возеры Аляксей Мацкалаў.

Плануецца стварэньне пункту пракату лодак і катамаранаў ды пабудова домікаў для адпачынку.

Купацца ў возеры можна паранейшаму задарма.

**Юлія Дарашкевіч**

# Затое Лакцюшын ездзіць на легкавушцы!..

**Старшыня слонімскага гарвыканкама Алег Лакцюшын ад пачатку сваёй працы на гэтай пасадзе (з вясны 1995 года) не перастае здзіўляць жыхароў горада, і, нават, тутэйшую наменклатуру. Усе «ініцыятывы» гэтага чыноўніка, не кажучы ўжо пра асноўнае - эканамічныя паказчыкі, заканчваюцца праваламі.**

Так, напрыклад, гады два таму, пэўна ўзяўшы прыклад ў Аляксандра Лукашэнкі, старшыня слонімскай вертыкалі стаў па сумяшчальніцтву і прэзідэнтам футбольнага клуба «Камунальнік». У 2000 годзе «Камунальнік» апусціўся ў першую футбольную лігу. Вінаватым зрабілі трэнера (адпраўлены ў адстаўку), які дагэтуль двойчы выводзіў слонімскі клуб у вышэйшую лігу. А футбольны «спецыяліст» Алег Лакцюшын па-ранейшаму - прэзідэнт клуба.

Другі прыклад - пераўтварэнне спецыялізаванай (ангельская мова) сярэдняй школы N6 горада Слоніма ў гімназію N1. Нягледзячы на тое, што слонімскі вертыкальшчык прыйшоў на сваё цяперашняе месца з пасады старшыні гарадскога аддзела адукацыі, - і гэтая ініцыятыва закончылася няўдачай. Інакш і быць не магло. Бо на стварэнне гімназіі з бюджэту не было выдаткавана ні капейкі грошай. У выніку змена шыльды і адпаведная ёе рэарганізацыя прынесла толькі шкоду. Як заявіў нядаўна перад бацькамі адзін класны кіраўнік, «...гімназія калі і будзе, то гадоў праз дзесяць. Таму што старое разбуранае, а новае не толькі не зарадзілася, яно нават не зачата».

Разам з тым і грошай, і розуму хапае на іншае. Напярэдадні выбараў у гэтак званую Палату прадстаўнікоў за бюджэтныя грошы для старшыні слонімскага гарвыканкама быў куплены новы службовы аўтамабіль за 18 тысяч даляраў ЗША. Першымі пацярпелымі ад гэтай «ініцыятывы» сталі былыя калегі Алега Лакцюшына - настаўнікі, якім акурат у той час затрымалі выплату зарплаты.

**Міхась Варанец, г.Слонім**

# Электарат аскацінеў

**У Каляднны вечар 7 студзеня ў адной з вёсак Дзятлаўскага раёна п'яны механізатар мясцовага калгаса згвалціў 67-гадовую бабулю, у яе ж хаце. Няшчасная памерла.**

Двума днямі пазней у вёсцы Помедзь Воранаўскага раёна знайшлі мёртвую бабулю. На спіне і грудзях 90-гадовай памерлай было 15 нажавых ранаў. Хто ўчыніў забойства - пакуль невядома.

**Юлія Дарашкевіч**

# Гарадзенскі аблвыканкам плануе ўшанаваць 200-годдзе расейскай губерні

**9 студзеня адбылося першае пасяджэнне аргкамітэта па святкаванні 200-й гадавіны ўтварэння Гарадзенскай губерні. Вёў рэй старшыня аблвыканкама, старшыня аргкамітэта Аляксандр Дубко. Была заслухана гістарычная даведка. Зацверджаны план мерапрыемстваў на бягучы год. Запланавана надрукаваць кнігу, прысвечаную юбілею, стварыць серыю партрэтаў былых губернатараў...**

Яшчэ 2 лістапада 2000 года адгукнулася на маючую быць падзею абласная газета «Гродзенская праўда». Яна інфармавала, што круглая дата ўтварэння губерні будзе адзначана шырока: арганізаваныя выставы, «круглыя сталы», тэматычныя ўрокі, урачыстае пасяджэнне грамадскасці.

Публікацыя выклікае шэраг пытанняў. Па-першае, не гаворыцца, якія палітычныя падзеі папярэднічалі ўзнікненню губерні, што да таго часу ўяўляла сабою Гарадзеншчына, у складзе якой краіны была, якія былі наступствы яе гвалтоўнага далучэння да тагачаснай Расеі. Менавіта заходняй часткай гэтай імперыі стаў наш край.

Па-другое, сёння ў складзе суверэннай і незалежнай Беларусі няма такой геаграфічнай адзінкі, як Гарадзенская губерня. Ёсць Гарадзенская вобласць. А гэта розныя рэчы. Сама арганізацыя святкавання арганічна вынікае з цяперашняй усходняй палітыкі беларускіх уладаў, накіраванай да так званага аб'яднання Беларусі ды Расеі. Вось тады вобласць будзе перайменавана ў губерню, стане чарговай расейскай правінцыяй, як было да рэвалюцыі, у СССРаўскі «саюз непарушны рэспублік свабодных». Ненадоўга хапіла ўмення і жадання самастойна кіраваць вольнай краінай у нашых мясцовых правадыроў.

Хочацца прасіць калег-журналістаў, незаангажаваных гісторыкаў адгукнуцца на падзеі 200-гадовай даўніны, прывесці дакладныя звесткі пра падзеі тых дзён, набытае і страчанае нашымі землякамі ў нанова абвешчанай губерні. «Вертыкаль» у сваіх лекцыях, выставах і пасяджэннях усё перакруціць, пераверне на свой капыл, падгоніць пад шаблон «воссоединения искони русских земель». Але ж ці так гэта было на самой справе?

Летапіс горада над Нёманам - кніга «Кронан» А.Госцева і В.Шведа - сведчыць, што ў лістападзе 1795 года ў выніку канчатковага падзелу Рэчы Паспалітай правабярэжная частка Гродна адыходзіць пад расейскае ўладарніцтва, а левабярэжная да 1807 года застаецца прускай. 25-га чысла таго ж месяца ўтворана Слонімская губерня, у складзе якой Гродна стаў цэнтрам павета.

У 1797 годзе Гродна абвешчаны цэнтрам павета Літоўскай губерні. 9 верасня 1801 года па старому стылю (21-га па новаму) імператар Аляксандр I сваім указам аднавіў дзве губерні - Віленскую і Гарадзенскую. Аднак ужо ў студзені 1802 года ўтвараецца Літоўска-Гарадзенская губерня з васьмі паветаў.

21 чэрвеня гэтага года адбылося ўрачыстае адкрыццё Гарадзенскай губерні ў памяшканні тэатра. Прысутнічае сам цар Аляксандр I. Ён праз месяц зацвердзіў герб Літоўска-Гарадзенскай губерні: у верхняй частцы шчыта - Пагоня, у ніжняй - зубр (пасля 1845 года Пагоня знікла).

Вынікае, што 1802 год больш прыдатны для ўрачыстасці, бо насычаны падзеямі куды больш значнымі, чым простае абвяшчэнне губерні, як у 1801 годзе.

Аднак чаму аблвыканкам пакінуў па-за ўвагай 25 снежня 1795 года, калі ўпершыню была ўтворана Слонімская губерня, і Гродна быў у яе складзе? Хіба гэта не Гарадзеншчына? Тады ўсе жыхары былі прыведзеныя да прысягі на вернасць новай уладзе на чале з губернатарам М.Навіцкім і яго намеснікам Волкавым.

Відавочна, што нагода 200-годдзя ўтварэння губерні спатрэбілася ў палітычных мэтах. Падзея цалкам упісваецца ў стратэгічны кірунак цяперашняга кіраўніцтва Беларусі - любым чынам уз'яднацца з Расеяй.

Ці будзе ад гэтага лепш жыць беларус? Сумніўна, калі глядзець расейскія тэлеканалы і бачыць, як без грошай і святла, без паліва і харчоў, з паўсюдным крыміналам і вайною, вяртаннем цэнзуры і пераследам сумленных людзей распачынае Расея шлях у новае тысячагоддзе. Мець у кішэні рускі рубель - яшчэ не значыць жыць па-чалавечы. Жабракі застануцца жабракамі нават калі аб'яднаюць свае торбы.

Выйграюць уладары нафта- і газарадовішчаў, а таксама вайскоўцы. Першыя маюць у Беларусі газа-нафтаправоды, а другія хутка прыцягнуць да нас ядзерную зброю «супраць NATO». Калі надарыцца якая ваенная сутычка, то Гарадзеншчына, як і ў кожнай мінулай вайне, стане цэнтрам пабоішча. Вельмі верагодна, што мы, простыя людзі, ператворымся ў попел.

Аднак, гэта іншая тэма.

**Сцяпан Ярашчук**

# «Цэнзарскія нажніцы» - падзея 2000 года

**9 студзеня ў менскай бібліятэцы імя Я.Купалы адбылася прэзентацыя кнігі гарадзенскага празаіка і журналіста Сяргея Астраўца «Цэнзарскія нажніцы». Імпрэзу арганізаваў Беларускі Калегіум.**

Вечарыну адкрыў кіраўнік Калегіума Алесь Анціпенка. Сяргей Астравец распавёў прысутным пра тое, як паўплывала атмасфера Гродна на стварэнне кнігі. У абмеркаванні «Цэнзарскіх нажніцаў» прынялі ўдзел Уладзімір Арлоў, Валянціна Аксак і Адам Глобус. Не абыйшлося і без аўтарскіх аўтографаў і дыялогаў з чытачамі. Незалежныя літаратары лічаць выданне «Цэнзарскіх нажніцаў» самай значнай літаратурнай падзеяй мінулага года на Гарадзеншчыне.

**Ігар Гандлеўскі**

# Святло Бэтлеема ў Каложы

**Ужо на працягу дзесяці гадоў напярэдадні каталіцкіх Калядаў скаўты ўсёй Еўропы перадаюць з краіны ў краіну Бэтлеемскае святло міру. Запаленае ў Бэтлееме, месцы нараджэння Ісуса Хрыста, гэтае святло з'яўляецца своеасаблівым сімвалам міру і спакою падчас Калядаў, якія пануюць у людскіх сэрцах.**

Беларусь удзельнічае ў гэтай эстафеце свету і цеплыні ўжо чатыры гады. У гэтым годзе святло трапіла да нас з Польшчы, а ў Польшчу - са Славакіі. Але гэты год стаў адметным, бо першы раз за чатыры гады агеньчык асвяціў не толькі Фарны касцёл, як было раней, але і ўніяцкі малітоўны дом ды найстарэйшую царкву Гродна - Каложу. На маё пытанне «што найбольш спадабалася і здзівіла?», усе скаўты, што ўдзельнічалі ў гэтай акцыі адказалі:

- Спадабалася рэакцыя вернікаў, іх добрае, шчырае стаўленне да нас. Здзівіла, што маленькі агеньчык можа прынесці людзям такую радасць.

**Яўгенія Курбат**

# Гадзіна «прамывання мазгоў»?

**З пачатку трэцяй навучальнай чвэрці у школах Гарадзеншчыны ўводзіцца «гадзіна інфармавання» вучняў. Аднак, ніякай спецыяльна створанай тэматыкі, паводле якой трэба праводзіць інфармаванне школьнікаў, не прадугледжваецца. Кожны настаўнік будзе сам вырашаць, якую інфармацыю распаўсюджваць падчас адмысловай гадзіны.**

Абавязак раз на тыдзень інфармаваць школьнікаў ускладаецца на класных кіраўнікоў.

Яны павінны сумясціць інфармаванне і правядзенне класнай гадзіны. Адпаведна словам начальніцы аддзела адукацыі гарадзенскага гарвыканкама Веры Родзінай, увядзенне гадзіны інфармацыі было прадугледжана аблвыканкамам яшчэ ў снежні мінулага года.

Дадатковай аплаты класным кіраўнікам не прадугледжваецца, бо, як кажа Вера Родзіна, «яны нават пачалі забывацца на правядзенне класнай гадзіны».

**Сяргей Сноп**

# Алег Латышонак - заслужаны дзеяч культуры

**У снежні 2000 года вядомы беларускі гісторык Польшчы, даўні сябра ПАГОНІ Алег Латышонак атрымаў ад міністра культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы Міхала Уяздоўскага ганаровую адзнаку «Заслужаны дзеяч культуры».**

Разам з Алегам «за дзейнасць на карысць незалежнасці Польшчы шляхам распаўсюджвання свабоднага слова ў рамках непадцэнзурных выданняў» былі ўзнагароджаныя 130 дзеячаў польскіх незалежных выданняў 1980-х гадоў.

У гэтак званым другім абароце, нефармальным грамадскім руху, пры ПНР выдаваліся па-за цэнзурай брашуры, прэса, гістарычныя і палітычныя даведнікі. Удзельнікі гэтага руху падвяргаліся рэпрэсіям.

Алег Латышонак пасля ўвядзення ваеннага становішча ў Польшчы быў суарганізатарам выдання «Інфармацыйнага бюлетэню Беластоцкага рэгіёну «Салідарнасць».

- Незалежныя выданні разбуралі фундаменты таталітарызму, выпраўлялі зафальшаваную гісторыю, і ўсе мы можаце адчуваць сябе стваральнікамі польскай культуры і свабоднага слова, - падкрэсліў у выступе да ўзнагароджаных міністр Міхал Уяздоўскі.

# Кніга пра беларусаў у міжваеннай Польшчы

**Рэдакцыя беластоцкай «Нівы» - газеты беларусаў Польшчы - распачала працу над чарговай (пасля «Бежанства 1915 года») мемуарнай кніжкі пра лёсы беларусаў Беласточчыны.**

Будзе гэта калектыўная кніга пад рабочым загалоўкам «Штодзённае жыццё беларусаў усходняй Беласточчыны ў міжваенны перыяд». У ёй будуць змешчаныя ўспаміны жыхароў сённяшняй Беласточчыны пра эканамічнае, рэлігійнае і культурнае жыццё ў II Рэчы Паспалітай. Апрача ўспамінаў, у кнізе будуць фотаздымкі, дакументы і навуковы каментар.

«Ніва» звяртаецца да сваіх чытачоў з заклікам пасадзейнічаць выхаду кнігі. Рэдакцыя просіць даслаць ў рэдакцыю ўспаміны, фотаздымкі і дакументы гэтага перыяду (пасля выкарыстання яны будуць вернуты ўладальнікам), або паведаміць «Ніве» адрасы асобаў, якія захочуць падзяліцца сваімі ўспамінамі.

Збор матэрыялаў для кнігі будзе доўжыцца да канца чэрвеня 2001 года.

**Паводле матэрыялаў «Нівы»**

# Людміла Паўлоўская па другі бок «Чароўнага люстра»

**Напэўна, нікога не трэба пераконваць, што на Каляды і Новы год здараюцца самыя неверагодныя цуды. А здараюцца яны не самі па сабе. Ёсць людзі, якія маюць непасрэднае дачыненне да фантастычных цудаў. Гэта - артысты Гарадзенскага тэатра лялек. Менавіта яны дораць штогод дзецям і дарослым не толькі навагоднія казкі. Ці з'яўляецца жыццё артыста вечнай казкай? Пра гэта мы спытаем у актрысы Людмілы Паўлоўскай.**



Людміла Паўлоўская ў ролі Снежнай Бабы

- Ой, за сваю больш чым дваццацігадовую сцэнічную кар'еру я ўвасобіла столькі казачных персанажаў, што сапраўды з цяжкасцю адрозніваю рэальнае жыццё ад спектакля...

***- А калі казаць пра нядаўнія Каляды і Новы год?***

- Ну, гэта ўвогуле, не жыццё, а самая суцэльная казка! Гэтым разам мы з калегамі паказалі прадстаўленне рэжысёра Алега Жугжды «Чароўнае люстра». Я там выступіла ў ролі Снежнай Бабы.

***- Вы, Людміла, часта выконваеце камічныя ролі. Яны Вам больш падабаюцца?***

- Я люблю ўсе ролі. І камічныя, і характарныя, і нават гераічныя. Я ўжо казала, што за дваццаць з лішкам гадоў перайграла шмат розных роляў. У тым ліку і ў кіно здымалася. Хай сабе ў эпізодах, але ўзгадаць прыемна: «У тумане» паводле В.Быкава, «Людзі на балоце» паводле І.Мележа ці «Момант ісціны» рэжысёра М.Пташука...

***- Шчыра прызнайцеся, Вас, як актрысу, запрашаюць на прыватныя імпрэзы?***

- Так. І вельмі часта. І не толькі на Новы год. На дні народзінаў ды іншыя сямейныя святы. Людзі жадаюць, каб казка хаця б на нейкі час перасялілася з тэатра ў іхнія хаты. Бацькі лічаць, што для іх дзетак жывая казка - найлепшы падарунак. І гэта сапраўды так.

***- Гэта і ёсць адваротны бок «Чароўнага люстра»?***

- Ведаеце, для мяне «Чароўнае люстра» з абодвух бакоў чароўнае! Таму я ў гэтыя навагоднія і калядныя дні жадаю ўсім, у тым ліку і чытачам ПАГОНІ, каб у новым стагоддзі і тысячагоддзі, іх жыццё ператваралася ў сапраўдную добрую казку!

**Гутарыў
Людвік Сарока**

# Змяя - хто яна?

**Людзі, якія нарадзіліся ў год Змяі - матэрыялісты, рэалісты і ў нечым нават прагматыкі. Змяя імкнецца як мага болей зразумець ва ўладкаванні свету, бо мае звычку ўвасабляць свае ідэі ў канкрэтныя справы. Яна ведае, чаго хоча ад жыцця, і дамагаецца гэтага мінімальнымі намаганнямі. Не любіць звяртаць шмат увагі на знешнія абставіны. Змяя рацыянальная, яе дзеянні лагічныя, бо яна мае досвед і абапіраецца на факты. Любіць займацца той дзейнасцю, якая прывядзе да прыемных адчуванняў і станоўчага выніку.**

Змяя тонка адгукаецца на адчуванні, звязаныя з фізічнымі нагрузкамі. Ёй неабходныя радасці жыцця, якія Змяя лічыць за натуральныя патрэбы.

Змяя даволі адчувальная, уразлівая, пачуццёвая і чуллівая. Таму яна надзвычай залежыць ад сваіх жаданняў, фізіялогіі. Калі цялесныя патрэбы Змяі задаволеныя, яна можа быць ветлівай і далікатнай ва ўсіх адносінах.

Калі Змяя сытая і задаволеная, то можа распачынаць вырашэнне надзённых жыццёвых праблемаў, у тым ліку і духоўнага плану. Прыемна целу - Змяя паволі свабодна паўзе па жыцці, непрыемна - перажывае дыскамфорт і замыкаецца на сваіх праблемах.

Змяя ў любы момант гатовая прадэманстраваць уласную моц, даказаць сваю выключнасць і жалезную волю. Яна не толькі л ю б і ц ь парадак, але і здольная яго навесці. Змяя сумяшчае арганізатарскія навыкі з талентам у шматлікіх галінах, практычнасць - з вытанчаным розумам ды інтуіцыяй, сацыяльную актыўнасць - з асабістымі інтарэсамі.



Змяя - гурман, умее з густам апрануцца, любіць камфорт і зямныя задавальненні. Шануе сямейны каштоўнасці, але адрозніваецца непастаяннствам. Гэта раўнівая ўласніца, як у дачыненні да рэчаў, так і да людзей.

Змяя - натура кансерватыўная, здольная хутка і ўмела дзейнічаць толькі ў звыклых для яе абставінах. Яна працалюбівая, вылучаецца цярплівасцю, разважнасцю. Эканомная ў рухах, яна паступова набліжаецца да сваёй мэты. Змяя заўважае недахопы і абгрунтавана іх крытыкуе. У яе тонкае пачуццё рытму, яна адчувае дробязі, і ў гэтым магічнае прызначэнне Змяі.

Змяя надае першаступеннае значэнне адчуванням, а не эмоцыям. Таму заўсёды імкнецца задаволіць усе свае патрэбы.

У Змяі моцны характар, але залішне рэалізму і разважлівасці, ляноты і жарсціў, малавата рамантыкі. І ўсю гэтую камбінацыю вянчае жалезная логіка!

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Ваша руплівасць і дбайнасць на прафесійнай ніве будзе ўзнагароджана па заслугах. Стары Новы год лепш адзначыць у сямейным асяроддзі. Прычым, на святочным стале павінна быць нешта зялёнага, аранжавага ці жоўтага колеру.

♉ **Бык (21.04-20.05).** У асабістым жыцці ўсе змены будуць скіраваныя толькі ў лепшы бок. Пасцярожней з інтрыганамі. Не апранайце 13 студзеня блакітнае і ружовае, лепей штосьці бліскучае, мігатлівае.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Паспешлівасць у прыняцці нейкіх рашэнняў напярэдадні Старога Новага года - не самы лепшы спосаб пазбавіцца ад праблемаў. Расслабцеся! Колькі можна так напружана думаць: што рабіць? У святочны вечар варта быць у нечым белым.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Нягледзячы на дробныя непрыемнасці мінулага тыдня, адчуваць Вы сябе будзеце даволі някепска. Перамовы з дзелавымі партнёрамі абяцаюць быць удалымі. Няхай на Вашым святочным стале, апрача страваў, будзе ці то аранжавая сурвэтка, ці то жоўты елачны шарык.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Вашыя фінансавыя праблемы, нарэшце, без следу знікнуць. Надарыцца магчымасць правесці Стары Новы год у цёплай сяброўскай кампаніі. Калі не ў лазні, дык дома пакаштуйце смачна згатаваную смажаную рыбу.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Нязначныя рэчы могуць дадаць Вам турботаў, калі забудзецеся на давер і паразуменне. Пазбягайце канфліктаў на бытавой глебе. Апраніце 13 студзеня нешта карычневага альбо рудога «змяінага» колеру.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Перад Вамі адкрыецца перспектыва сацыяльнага росту. Не страчвайце свой шанец! Нечакана апынецеся ў віры нечаканых падзей, нечаканых жаданняў, таму разважлівасць будзе, як ніколі, патрэбнай. Прыгатуйце на святочны стол смажаную птушку, упрыгожаную зелянінай.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Не зусім простымі будуць стасункі з сябрамі. Але пасля 13 студзеня Вы адчуеце палёгку. З поспехам завершыце усе справы з дапамогаю натхнення. Ёсць шанец сустрэць тую (таго), пра каго Вы даўно марылі, на Стары Новы год.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Тыдзень будзе багаты на візіты, прыёмы гасцей. Таму клопату Вам хопіць. Не выключана, што Вы здолееце выявіць усе свае таленты і завесці новыя знаёмствы. На Стары Новы год не забудзецеся развітацца з Драконам і папрасіць у Змяі мудрасці.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Змяніце камандзірскі тон на прыязны. Вы без цяжкасці адолееце існуючыя непаразуменні і выралыце амаль усе праблемныя пытанні да 13 студзеня. Больш патрабавальнасці да сябе - і ўсё будзе ў ажуры. Не забудзецеся ўпрыгожыць святочны стол фігуркай Змяі.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Паспрабуйце захаваць свой прыўзняты рамантычны настрой не толькі на Стары Новы год, але і надалей. Абавязкова павесьце на елачку цацачную змейку.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Устрымайцеся ад спакусы абы на што патраціць усе грошы. Лепей купіце курыцу альбо іншую птушку, нафаршыруйце і запечаной падайце на святочны стол, накрыты белым абрусам.



# З першага па трынаццатае

**Першыя дванаццаць пытанняў з'яўляюцца своеасаблівым тэстам на ўзровень вашай эрудыцыі. Правільныя адказы на іх змешчаныя ніжэй. На трынаццатае пытанне конкурсу трэба адказаць пісьмова на адрас рэдакцыі (на паштоўках ці канвертах пазначыць - «12+1»). Сярод лістоў ды паштовак з правільнымі адказамі будзе праведзена лёсаванне, якое і вызначыць, хто ж стане пераможцам і атрымае прыз ад рэдакцыі нашай газеты.**

**1. Гаспадыні-японкі гатуюць на Новы год стравы з прадуктаў, якія, на іх думку, прыносяць шчасце: з марской капусты, смажаных каштанаў, гароху, варанай рыбы; а таксама з ікры селядца, каб...**

**а)** быць радаснымі і ўдачлівымі; **б)** было шмат дзяцей у сям'і; **в)** быць здаровымі і захоўваць бадзёрасць духу.

**2. У Эквадоры сімвалам старога года з'яўляецца пудзіла са старой вопраткі, набітае саломай. Стары год, а з ім - і бяздаддзе ў сям'і, адыходзяць у нябыт, калі...**

**а)** пудзіла падпальваюць; **б)** пудзіла прывязваюць да стула і кідаюць праз акно; **в)** зачытваюць перад пудзілам «запавет» старога года з пералікам усіх сямейных непрыемнасцяў і спальваюць яго.

**3. Сімпатычны навагодні звычай існуе ў жыхароў Тыбета:**

**а)** некалькі дзяўчатаў ходзяць па кварталу з лазовымі дубцамі; юнакі, якім яны прапаноўваюць узяцца за дубец з другога боку, становяцца іх нарачонымі; **б)** гаспадыні раздаюць піражкі з разнастайным начыненнем: чым больш раздадуць, тым багацей будуць; **в)** жанчыны ў вячэрніх строях заходзяць у ваду і кідаюць пялёсткі кветак у марскія хвалі.

**4. У Грэцыі калядныя падарункі дзецям прыносіць...**

а) бацюшка Новы год; б) анёл; в) святы Васілій.

**5. Калі стрэлкі гадзінніка набліжаюцца да 12-ці, гаспадар дома ў Шатландыі**

**а)** трымае дзверы адчыненымі ажно да поўначы; **б)** моўчкі расчыняе вокны і выпускае стары год; **в)** выкідвае праз форткі старыя календары.

**6. Персы называлі яго кахруба, грэкі - электрон. Яго беларуская назва -**

**а)** дыямент; **б)** бурштын; **в)** жэмчуг.

**7. Выява аголенага дзіцяці ў вобразе анёла ці Купідона называецца італійскім словам, якое перайшло ва ўсе еўрапейскія мовы, -**

**а)** «путто»; **б)** «амур»; **в)** «дольчэ».

**8. Эскімосы называюць іх «мышамі з надхмар'я» і ўпэўненыя, што яны сышлі на Зямлю з зораў. Хто, яны?**

**а)** кажаны; **б)** лемінгі; **в)** пацукі.

**9. Бразільскі «маэстра трансу» Луіс Антоніо Гаспарэтта вядомы здольнасцю наладжваць духоўны кантакт са знакамітымі мастакамі, маляваць дакладна ў іх стылю нават з заплюшчанымі вачыма і дагары нагамі. Аднойчы за 75 хвілінаў ён намаляваў...**

а) 12 карцінаў; б) 20 карцінаў; в) 21 карціну.

**10. Яшчэ ў Старажытнай Грэцыі і Рыме існавала павер'е пра паўжанчын-паўзмеяў, якіх называлі...**

а) вампіі; б) фобіі; в) ламіі.

**11. Кітайскі дэкаратыўны дракон складаецца з дзевяці жывёлаў кітайскай міфалогіі: вярблюда, аленя, зайца, быка, ігуаны, жабы, тыгра, арла і...**

а) карпа; б) варана; в) змяі.

**12. Калі чалавек есць меней за ўсё?**

**а)** перад заробкам; **б)** у мядовым месяцы; **в)** у лютым.

**Правільныя адказы:**

1б, 2а, 3а, 4в, 5а, 6б, 7а, 8б, 9в, 10в, 11а, 12в

**Дванаццаць** правільных адказаў - выдатна, **10-11** - вельмі добра, **8-9** - добра, **6-7** - здавальняюча, **менш як 6** - у Вас ёсць над чым папрацаваць.

**13. Рымскі імператар Елагабал спадзяваўся набыць здольнасць неўміручасці. Дзеля гэтага загадаў прыгатаваць яму на вячэру... Паспрабуйце закончыць выказванне і расказаць: што ж здарылася далей?**

**Адказ на дзесятае пытанне конкурсу «9+1» (гл. ПАГОНЮ N49 ад 28 снежня 2000 года), якога не знайшлося сярод дасланых вамі.** ***Апошняй кінаверсіяй была «Чарадзейная загадка» (Аўстралія, 1991 г.), а перакладчык памыліўся наконт абутку, што падаравала Папялушцы фея. Туфлікі былі зусім не з крышталю, а з футра.*** Дасылайце свае лісты, вам абавязкова павінна пашанцаваць у 2001 годзе мудрай Змяі!

## ЧАЙНВОРД



1. Жарт, заснаваны на выкарыстанні розных словаў, блізкіх па гучанню, або розных значэнняў аднаго слова. 2. Вялікае мноства чаго-небудзь (разм.). 3. У народных гаворках: ежа. 4. Паводле візантыйскіх сярэдневяковых легендаў, казачная птушка з тварам чалавека. 5. Скрыначка, бляшанка для збірання і назапашвання грошай. 6. Марскі сысун атрада кітападобных, які жыве ў арктычных водах Грэнландыі, Паўночнай Канады ды інш. 7. Найвышэйшая ступень захаплення, пры якой чалавек даходзіць да самазабыцця. 8. Дарога, па якой ездзяць толькі ўзімку (разм.). 9. Істужка, якая ўплятаецца ў касу. 10. Уладальнік незлічоных багаццяў (па імені надта багатага легендарнага цара). 11. Завея, мяцеліца, завіруха.

**Адказы на калядную галаваломку, змешчаную ў N1 (497)**

**1.** Абракадабра. **2.** Груца. **3.** Замова. **4.** Піліпаўка. **5.** Шчадрэц. **6.** Знічка. **7.** Каралі. **8.** Бажніца. **9.** Аддуха. **10.** Прошча. **11.** Загавіны. **12.** Казка. **13.** Хараство.

## Анекдоты!!!

Сын-бацьку:

- Татка, а чаму ты так высока цукеркі на елачку пачапляў?

- А гэта каб ты, сынок, іх да 13 студзеня не з'еў.

- Дык што ж мне цяпер, татулечка, серпанцін жэрці?

***

Засядзеліся госці на Стары Новы год. Гаспадыня ўжо і не ведае, што рабіць. Тут чуецца тэлефонны званок. Яна падыходзіць да тэлефона - і тут узнікае ідэя... Гаспадыня вяртаецца да гасцей і лямантуе:

- Пажар, пажар!

Усе прысутныя:

- У каго пажар?!

- Было кепска чуваць... У некага з вас.

***

Новы год у Эфіопіі. Згаладалыя дзеткі сабраліся пад кустом у чаканні Дзеда Мароза. З'яўляецца Дзед Мароз, віншуе дзяцей са святам і збіраецца ляцець далей.

- Дзядуля Мароз, а падарункі?

- А падарункі толькі тым, хто добра еў.

**ПАГОНЯ**
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

**Адрас рэдакцыі:**
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: **63124.**

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня»
Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 10.01.2001 г.
Замова 76 Наклад 7 559

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць пагляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар **Мікола Маркевіч**

Камп'ютарны набор: **Аксана Бурдзюк,**
камп'ютарная вёрстка: **Аляксей Салей**